весНік ПРАВА БАРОНЧЫ



# АКТЫВІСТЫ БУДУЦЬ ДАБІВАЦЦА ВЫКАНАННЯ РЭКАМЕНДАЦЫЯЎ КАМІТЭТУ ААН АБ ПРАВЯДЗЕННІ МАСАВЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ

Баранавіцкія актывісты Сяргей Гоўша, Віктар Сырыца і Віктар Мезяк напрыканцы снежня 2012 года атрымалі 12-ці старонкавы адказ на рускай мове з Камітэта па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (раней быў атрыманы англійскамоўны варыянт адказу).

"Камітэт па правах чалавека, дзейнічаючы ў адпаведнасці з пунктам 4 артыкула 5 Факультатыўнага пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, лічыць, што прадстаўленыя яму факты сведчаць аб парушэнні Беларуссю артыкула 19 і артыкула 21 Пакта", гаворыцца ў меркаваннях, прынятых Камітэтам ААН па правах чалавека 27 ліпеня 2012 г., у адказ на скаргу актывістаў з Баранавічаў.

**Дзяржава-удзельніца абавязана прыняць захады па недапушчэнні аналагічных парушэнняў у будучыні.**

Скарга актывістаў датычыла забароны на правядзенне ў Баранавічах мітынгу "За свабодную, незалежную і квітнеючую Беларусь" 10 верасня 2006 года. 4 верасня 2006 года Баранавіцкі гарвыканкам адмовіў Сяргею Гоўшы, Віктару Сырыцы і Віктару Мезяку ў правядзенні мітынгу на той падставе, што сустрэча на аналагічную тэму ўжо адбылася ў памяшканні гарадскога выканаўчага камітэта 15 сакавіка 2006 года.




Гэтая забарона была абскарджаная ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы, а потым у судовай калегіі па грамадзянскіх справах Брэсцкага абласнога суда і старшыні Вярхоўнага Суда Беларусі. Аднак усе гэтыя скаргі былі адхілены. Такім чынам, актывістамі былі вычарпаныя ўсе наяўныя ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны ў спробе ажыццявіць свае правы на мірныя сходы, гарантаваныя артыкулам 35 Канстытуцыі.

Акрамя таго, Камітэт адзначае, што "дзяржава-удзельніца абавязана прыняць захады па недапушчэнні аналагічных парушэнняў у будучыні. У сувязі з гэтым дзяржаве-ўдзельніцы варта перагледзець сваё заканадаўства, у прыватнасці Закон "Аб масавых мерапрыемствах", і яго прымяненне ў мэтах забеспячэння яго адпаведнасці патрабаванням артыкула 19 і артыкула 21 Пакта". Віктар Сырыца лічыць апошнюю заўвагу Камітэту вельмі важнай:

"Цяпер мы можам дабівацца дэмакратызацыі закону аб масавых мерапрыемствах, рашэння Баранавіцкага гарвыканкаму аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў. Зараз гэтыя закон і рашэнне супярэчаць Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, які ратыфікавала Беларусь".

Віктар Сырыца, Віктар Мезяк і Сяргей Гоўша мяркуюць звяртацца ў Баранавіцкі суд, каб дабівацца адмены рашэння гарвыканкаму аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў

Вітусь Свабодзкі

## Баранавіцкі гарадскі аддзел культуры не даў памяшкання для дыктоўкі 2 лютага



Аддзел культуры Баранавіцкага гарвыканкама не даў памяшкання гарадской бібліятэкі для дыктоўкі 2 лютага, прысвечанай 175-м угодкам з дня народзінаў Кастуся Каліноўскага. Вось ужо 3-ці год запар гарадскія ўлады ігнаруюць просьбу сяброў ГА "Таварыства беларускай мовы" аб выдзяленні памяшкання для правядзення дыктоўкі па беларускай мове для грамадскасці горада.

Начальнік аддзела культуры гарвыканкама Генадзь Чарняўскі традыцыйна напісаў ў сваім адказе, што "у планах масавай работы цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Ваша мерапрыемства не прадугледжана".

– Якраз бібліятэкі і павінны прадастаўляцца грамадскасці горада для такіх асветніцкіх ініцыятыў, але чамусці Баранавіцкі гарадскі аддзел культуры заняў рэзка адмоўную пазіцыю ў гэтым культурніцкім пытанні. Кастусь Каліноўскі – найярчэйшая асоба ў нашай гісторыі і каб годна ўшанаваць 175-я ўгодкі з дня яго народзінаў, мы абавязкова знойдзем памяшканне для дыктоўкі, – паведаміла актывістка ТБМ Анжаліка Камбалава.

Глеб Лушынскі

## Баранавіцкія праваабаронцы і актывісты павіншавалі бацьку М. Статкевіча са святамі, а М. Аўтуховіча з юбілеем

Баранавіцкія праваабаронцы і грамадскія актывісты 7 студзеня накіравалі віншавальную тэлеграму Мікалаю Аўтуховічу з нагоды яго 50-годдзя. Тэлеграму падпісалі С. Гоўша, А. Камбалава, В. Болбат, В. Сырыца, В. Мезяк, Р. Грык.

– Мы пажадалі Мікалаю Аўтуховічу моцнага здароўя і найхутчэйшага вызвалення, цвёрдасці духа і веры, выказалі ўпэўненасць, што ўсе цяжкасці і выпрабаванні будуць непазбежна пераадолены, – паведаміў В. Сырыца.

Праваабаронцы і грамадскія актывісты заверылі Мікалая Аўтуховіча, што яго высокія маральныя прынцыпы і мужная грамадзянская пазіцыя стала для ўсіх сумленных людзей прыкладам ў паўсядзённым асабістым і грамадска-палітычным жыцці.

У гэты ж дзень, 7 студзеня, грамадскія актывісты і праваабаронцы наведалі і павіншавалі Статкевіча Віктара Паўлавіча з нараджэннем Хрыстовым і Калядамі. Нягледзячы на пагаршэнне здароўя, Статкевіч-старэйшы быў вельмі рады і гасцінна сустрэў наведвальнікаў у сваёй хаце.

– Віктар Паўлавіч шчыра моліцца за найхутчэйшага вызвалення ўсіх палітвязняў, асабліва сына Мікалая. Гэтымі надзеямі ён сёння толькі і жыве. Таму мы стараемся яго маральна падтрымаць і падбадзёрыць, – паведаміла Анжаліка Камбалава.

За кубачкам гарбаты гаварылі пра сённяшняе нялёгкае жыццё, і магчымае вызваленне палітвязняў у 2013 годзе.

Вера Антановіч

# ЗАЦЕМКІ З НЯВОЛІ

## Пра інтэлектуальны супрацiў

**Алесь Бяляцкі**

*З ліста ад 07.01.2013*

Уладзімір Някляеў даслаў мне кніжку “Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без” – ягоны менскі раман. А за тыдзень перад гэтым па падпісцы я атрымаў часопіс “Дзеяслоў”, і там таксама ёсьць тэкст “Аўтамату з газіроўкай”. Я не маркочуся, бо кніжка – з аўтографам аўтара, і я ўспрымаю яе як калляднае, навагодняе віншаваньне. Чытаць раман я буду ў часопісе, а кніжку з аўтографам адашлю дадому. У дароўчым надпісе Уладзімір Пракопавіч піша: “Гэтая кніга ўдзячнасьці Менску і ўсім тым, хто разам з Менскам увайшоў у маё жыцьцё”. Раман гэты вельмі цікавы для мяне. Таму што, па-першае, напісаў яго страшэнна таленавіты і непераўзыйдзены Уладзімір Някляеў, а па-другое, што апісвае ён інтэлектуальны супраціў у Менску ў 60-х гадах. Той перыяд і тых людзей, пра якіх мы амаль што нічога ня ведаем.


Уладзімір Някляеў і Сяргей Дубавец

І гэта ўжо другая кніжка за 2012 год, якая распавядае пра нонканфармісцкае жыцьцё ў Менску за саветамі. Першая была таксама выдатная - “Майстроўня” Сяргея Дубаўца, якая распавядала пра пачатак 80-х, пра пачатак хвалі новага беларускага адраджэньня.

Уладзімір Някляеў напісаў пра інтэлектуальны дысідэнцкі супраціў, Сяргей Дубавец – пра пачаткі нацыянальна-дэмакратычнага руху. Гэтыя дзьве кніжкі дапаўняюць адна другую. Яны важныя для разуменьня тых працэсаў, якія адбываліся ў беларускім грамадстве за саветамі, хаця і зьяўляюцца толькі вяршынямі айсбергу. Пасля прачытаньня гэтых кніжак наўрад ці хто зараз скажа, што тыя імклівыя зьмены, якія адбыліся ў Беларусі ў канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў, нечакана зваліліся нам на галаву.

spring96.org

# «БРЭНД ГОДА»

Міхалка і Вольскага вылучылі на афіцыйную прэмію

Абодва музыканты знаходзяцца ў так званым «чорным спісе» выканаўцаў.

За дзень да абвяшчэння вынікаў штогадовага конкурсу «Брэнд года» прафесійнае журы раптоўна пашырыла спіс намінантаў на «Брэнд-персону 2012».


Лявон Вольскі, франтмэн «Крамбамбулі», Сяргей Міхалок, лідар гурта «Ляпіс Трубяцкой»

Да вылучаных раней эстрадных артыстаў (Ларыса Грыбалёва, Анатоль Ярмоленка, Ядвіга Паплаўская ды Аляксандр Ціхановіч) і знакамітых спартоўцаў (Максім Мірны, Вікторыя Азаранка, Аляксандра Герасіменя) дадаліся пісьменнік Андрэй Жвалеўскі, лідар гурта J: Морс Уладзімір Пугач, лідар «Ляпіса Трубяцкога» Сяргей Міхалок ды франтмэн «Крамбамбулі» Лявон Вольскі.

Інфармацыю пра гэта ўскосна пацвердзілі некаторыя сябры журы конкурса.

«Брэнд-персона» — галоўная намінацыя конкурса «Брэнд года». У спісе леташніх намінантаў на сайце конкурса «брэнд-персоны» пералічаныя першымі.

spring96.org

# У БАРАНАВІЧАХ АРГАНІЗАЦЫЮ “КАБЗАР” НЕ ЗАРЭГІСТРАВАЛІ, ЗАТОЕ ПРЫНЯЛІ Ў СКЛАД СЕВАСТОПАЛЬСКАГА АБ’ЯДНАННЯ “ПРОСВІТА”

**Віктар Смоўж**

Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус 16 студзеня 2013 года атрымаў ліст ад Севастопальскай Рады аб’яднання “Просвіта” імя Тараса Шаўчэнкі. У ім паведамляецца, што 12 снежня 2012 года на адкрытым пасяджэнні Севастопальская Рада “Просвіта” зацвердзіла статут Баранавіцкага таварыства “Кабзар” у складзе Севастопальскага аб’яднання “Просвіта”. У другім пункце пастановы прынята рашэнне надаць Мікалаю Чарнавусу паўнамоцтвы прадстаўляць Баранавіцкае таварыства “Кабзар” у пытаннях рэгістрацыі і ўзаемадзеяннях з органамі мясцовай улады ў Баранавічах.




– Неаднаразовыя спробы атрымаць юрыдычны адрас для грамадскай арганізацыі “Кабзар” ў Баранавічах і зарэгістраваць яе ў Брэсцкім упраўленні юстыцыі скончыліся безвынікова. Таму баранавіцкія ўкраінцы прапанавалі мне звярнуцца за дапамогай да землякоў у Севастопалі, – сказаў Мікалай Чарнавус.

Гэтая дапамога стала відавочнай пасля таго, як 10 лютага 2012 г. Баранавіцкі гарадскі суд прызнаў Мікалая Чарнавуса вінаватым у парушэнні арт. 23.39 КаАП за тое, што ён падпісаўся ў лісце кіраўніцтву горада старшынём ГА “Кабзар”, якая не зарэгістравана. Таму суддзя С. Півавар прызнаў вінаватым Мікалая Чарнавуса ў самаўпраўстве пры стварэнні грамадскага аб’яднання ўкраінскай дыяспары “Кабзар” і прысудзіў яму адміністрацыйны штраф у памеры 2-х базавых велічынь (70 тыс. руб.).

# “Я ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ ЎСІМ ЛЮДЗЯМ, ЯКІЯ МНЕ ПІШУЦЬ!”

У сваіх допісах калядна-навагодніх і пасьлясьвяточных дзён Алесь Бяляцкі распавядае, што яго “канчаткова заваліла лавіна лістоў і паштовак, калі да акцыі падтрымкі далучыліся віншаваньні”. Часам за дзень палітвязень атрымлівае блізу паўтысячы пасланьняў - з Беларусі і з усяго сьвету.

“Я вельмі ўдзячны ўсім людзям, якія мне пішуць!” – звяртаецца Алесь да адрасантаў тых пасланьняў, чые словы саграваюць яго гэтымі зімовымі днямі ў зусім несьвяточных умовах.

“Працуем мы, рвем вацін і набіваем наматрацнікі і насыпкі – заказ для жаўнераў. Пасля такой працы дробным пылам забіты нос і дыхаеш ротам…” – напісаў Алесь у адну з апошніх сьнежаньскіх суботаў, якая была працоўным днём, і дадаў, што парадаваў гэты дзень тым, што працавала і пошта.

“У навагоднія сьвяты мелі мы два дні адпачынку. І гэтыя дні і яшчэ паўдня 2-га студзеня па-ціху, па-троху чытаў я тыя сотні лістоў і паштовак… Магу шчыра сказаць, я не прапусьціў ніводзін зь іх. На ўзроўні ўсіх сваіх пачуцьцяў я адчуваў тыя хвалі падтрымкі і спагады, тыя флюіды душэўнай энэргіі, якія сыходзілі зь іх. Гэта быў неперадавальны новы год…

Я пачынаю сур’ёзна задумвацца: а чым я змагу аддзячыць людзям, якія вось так шчыра і цёпла падтрымліваюць мяне…”

Нагадаем, што ўжо другія запар калядныя і навагоднія дні кіраўнік Праваабарончага цэнтру “Вясна” і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай фэдэрацыі за правы чалавека (FIDH) правёў за кратамі. Пазбаўлены волі за сваю праваабарончую дзейнасьць, у 2011 годзе ў гэты час Алесь Бяляцкі знаходзіўся ў Жодзінскай турме, дзе яго напаткала асабістае гора – 24 сьнежня ня стала ягонага бацькі, развітальную сустрэчу з ім, цяжка хворым, Алесю не дазволілі.

spring96.org

## Мікалай Чарнавус падаў скаргу старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда

Баранавіцкі прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус 14 студзеня падаў скаргу старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда на рашэнне Касацыйнай калегіі ВГС ад 13.11.2012г. Грамадскі актывіст просіць адмяніць рашэнне судоў першай, апеляцыйнай інстанцыі і касацыйнай калегіі ВГС і задаволіць яго патрабаванне аб прызнанні выбараў Рады індывідуальных прадпрымальнікаў на Баранавіцкім каапрынку ў снежні 2011 года несумленнымі і незаконнымі.

Вось ужо другі год Чарнавус імкнецца апратэставаць вынікі выбараў Рады ІП на каапрынку спачатку ў агульных судах, а цяпер вось у гаспадарчых судах розных інстанцый. У судах ён сцвярджае, што сябры Рады прадпрымальнікаў Ю. Зяленскі, Д. Гараднічы, А. Макар і інш. былі назначаны адміністрацыяй каапрынка, а не абраны на агульным сходзе ІП, як гэта патрабуе заканадаўства краіны.

У скарзе да старшыні ВГС М. Чарнавус паведамляе аб прычынах нежадання адміністрацыі рынку прызнаць выбраную ІП новую Раду.

– Думаю, што гэта звязана з ашуканцтвам фірмы “Ралет-мантаж”, якая ўзяла ў ІП вялікія грошы і не выканала свае абавязацельствы па добраўпарадкаванню каапрынку. Адміністрацыя каапрынку баіцца незалежнай Рады прадпрымальнікаў, якая выявіць, магчыма, новыя фінансавыя злоўжыванні і дачыненне да махлярства высокіх мясцовых дзяржаўных чыноўнікаў, – адзначыў Мікалай Чарнавус.

Сяргей Законнікаў

## Баранавіцкі аддзел культуры не даў памяшканне для сустрэчы з выдаўцом Анатолем Тарасам




Аддзел культуры Баранавічаў не даў памяшканне гарадской бібліятэкі для сустрэчы гараджанаў з вядомым выдаўцом папулярных гістарычных кніг Анатолем Тарасам.

– Яшчэ некалькі гадоў таму сябры Таварыства беларускай мовы і аматары роднай гісторыі разам з адміністрацыяй цэнтральнай бібліятэкі праводзілі мноства культурніцкіх мерапрыемстваў. І цяпер прадстаўнікі грамадскасці хацелі арганізаваць 27 студзеня творчую сустрэчу па праблемах краязнаўства з выдаўцом у бібліятэцы, – паведаміў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

– Аднак начальнік аддзела культуры гарвыканкама Генадзь Чарняўскі напісаў у сваім адказе, што "у планах масавай работы цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Вашы мерапрыемствы не прадугледжаны. У сувязі з вышэй сказаным, даць памяшканне для правядзення мерапрыемстваў пабочным арганізацыям (!!!) немагчыма." Вось так!!!

Агульнавядома, што бібліятэкі ўтрымліваюцца за грошы падаткаплацельшчыкаў. А вось карыстацца сёння памяшканнямі бібліятэк грамадзяне не могуць, бо гэтае іх права залежыць ад волі чыноўніка.

Вітусь Свабодзкі

## ПРАВААБАРОНЦА СЯРГЕЙ ГОЎША ПРОСІЦЬ ВЯРХОЎНЫ СУД РАЗАБРАЦЦА З ЯГОНАЙ СПРАВАЙ

Праваабаронца Сяргей Гоўша 21 студзеня напісаў скаргу ў Вярхоўны Суд на пастановы Баранавіцкага і Брэсцкага абласнога судоў. Скаржнік паведамляе, што пастановаю Баранавіцкага суда ад 21 жніўня 2012 года ён быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 17.1 КаАП РБ да штрафа ў памеры 1 500 000 рублёў. Судовая справа вялася ў судзе на рускай мове з перакладам для яго на беларускую мову па пісьмовым хадайніцтве праваабаронцы. Сяргей Гоўша не пагадзіўся з пастановаю суда і напісаў скаргу на беларускай мове аб адмене вынесенай судовай пастановы для яе накіравання ў Брэсцкі абласны суд. Суддзя Васіль Петрыў прапанаваў аплаціць па скарзе дзяржпошліну ў памеры 200 000 рублёў у тэрмін да 12 верасня. Паколькі гэтая пастанова суда аб уплаце дзяржпошліны была накіравана на рускай мове, то Сяргей Гоўша вярнуў яе назад на адрас суда, а ў судзе зрабіў запіс у кнізе скаргаў, каб яму выслалі пастанову на беларускай мове. 12 верасня праваабаронца звярнуўся асабіста да старшыні суда Кміты М.А. за растлумачэннем факту высылкі яму судовых дакументаў на рускай мове, а таксама з заявaю аб вызваленні яго ад аплаты дзяржаўнай пошліны ў сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам. Раней, па іншым адміністрацыйным справам, ён неаднаразова звяртаўся і яго суды вызвалялі поўнасцю ці часткова ад аплаты дзяржпошліны пры падачы скаргаў у вышэйстаячыя судовыя органы.

– Я ясна патлумачыў старшыні суда, што ў мяне быў апошні дзень для аплаты дзяржпошліны, і калі б ён сказаў, што пошліну абавязкова патрэбна аплаціць у гэты дзень, то я змог бы да канца дня ўзяць у доўг 200 000 рублёў і аплаціць яе, – паведаміў Сяргей Гоўша.

Аднак старшыня суда запэўніў праваабаронцу, што яго заявы будуць разгледжаны і не трэба хвалявацца і спяшацца. Пры гэтым Сяргею Гоўшы не было растлумачана старшынёй суда, што яго цяжкае матэрыяльнае становішча не будзе з'яўляцца ўважлівай прычынай для вызвалення яго ад аплаты дзяржпошліны і для аднаўлення тэрміну для абскарджвання.

У сваёй скарзе праваабаронца даводзіць Вярхоўнаму Суду, што на наступны дзень сваёй пастановаю ад 13.09.2012г. суддзя Петрыў В.А. вярнуў яму ўсе матэрыялы па скарзе, у сувязі з няўплатай дзяржпошліны. Пастанова гэтая яму таксама была накіравана на рускай мове. На гэты дзень ў судзе ўжо была яго заява аб вызваленні ад аплаты дзяржпошліны, але ў пастанове гэты факт не быў адзначаны і яго заява да высылкі яму пастановы ад 13.09.2012 года судом не разглядалася. Але, каб не ствараць бюракратычную цяганіну, праваабаронца ўзяў у доўг 200000 рублёў і аплаціў дзяржпошліну.



– Лічу, што па фармальным падставам былі прынятыя ўсе меры да таго, каб мне адмовіць ў разглядзе маёй скаргі ў абласным судзе, з мэтаю захавання ў законнай сіле судовай пастановы ад 21 жніўня 2012 года,– адзначыў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Гэтае апасенне пацвердзілася. Брэсцкі абласны суд сваёй пастановаю ад 04.10.2012 года хадайніцтва Сяргея Гоўшы аб узнаўленні тэрміну на абскарджванне адхіліў таксама па фармальных падставах з фармулёўкаю на рускай мове без перакладу яе на беларускую мову.

Такім чынам, Сяргей Гоўша лічыць, што ў адносінах да яго былі парушаны патрабаванні арт.арт. 3, 5, 14, 15 Закона «Аб мовах».

Улічваючы, што яго заява не была разгледжана ў адпаведнасці з патрабаваннямі арт. 268 Падаткавага Кодэкса Рэспублікі Беларусь, ён просіць Вярхоўны суд адмяніць усе вынесеныя судовыя пастановы па яго адміністрацыйнай справе і прызнаць пропуск тэрміну аплаты дзяржпошліны па справе ўважлівым, бо скаргу на вынесеную пастанову суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ён накіраваў ва ўстаноўлены 10-дзённы тэрмін.

Аляксей Пузікаў

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК" Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

ВЕСНІК PRAVAБАРОНЧЫ